# Тыднёвік Магілёўскі



№ 4 (119) 22 – 28 чэрвеня 2001 г. Кошт 80 руб.


# Вось яно і пачалося...



Фота IREX



***Па сьведчаньні Каардынацыйнай рады па назіраньні за выбарамі, у нашай вобласьці ў склады раённых, гарадзкіх і абласной выбарчых камісіяў не ўключаны ніводзін прадстаўнік ад дэмакратычных арганізацыяў і партыяў.***

***Паўсюль, за рэдкім выняткам, быў ажыцьцёўлены адзін і той жа сцэнар: абвешчаныя сумесныя паседжаньні прэзыдыюмаў мясцовых Саветаў і выканкамаў, на якіх было заплянавана зацьвердзіць пэрсанальныя склады выбаркамаў, былі скліканыя на 2 гадзіны раней, чым пра тое ведалі прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў і партыяў. У адсутнасьці іх чыноўнікі правялі свае рашэньні хутка і адзінагалосна. У тэрытарыяльныя камісіі такім чынам увайшлі прадстаўнікі самога чыноўнага апарату, а таксама – лаяльных да рэжыму арганізацыяў кшталту БПСМ і вэтэранаў вайны.***

***Цяпер прадстаўнікі дэмакратычных арганізацыяў бяруцца дамагчыся свайго наглядальнага прадстаўніцтва ў выбаркамах. Такое магчыма, хаця прадстаўнічая прысутнасьць абмежаваная ў праве голасу і не накладае на выбаркамы абавязку запрашэньня наглядальнікаў на свае паседжаньні.***

***Тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі таксама выглядаюць па ўсёй краіне. На думку наглядальнікаў, гэтая сынхроннасьць сьведчыць пра заплянаванасьць акцыі па ўтварэньні надзейных для ўлады выбаркамаў.***

***Паводле прэс-рэлізу абласной Каардынацыйнай рады па нагляду за выбарамі***

## А як тое адбывалася на месцах?

*У Магілёве. Старшыня рэгіянальнага аддзяленьня Беларускага Хельсінскага Камітэту Ў.Краўчанка своечасова накіраваў неабходныя дакумэнты ў аблсавет і аблвыканкам з просьбай дапусьціць на сумеснае паседжаньне па фарміраваньні выбарчай камісіі дырэктара Магілёўскага праваабарончага цэнтру Сяргея Абадоўскага. Прызначанае ў мінулы панядзелак на 10-ю раніцы гэтае сумеснае паседжаньне было раптоўна перанесенае на 8-ю раніцы, аб чым ніхто з БХК ці МПЦ папярэджаны ня быў. Вынік: паседжаньне адбылося без прысутнасьці праваабарончага прадстаўніка.*

*На сумеснае паседжаньне гарсавету і гарвыканкаму ня здолелі па той жа прычыне патрапіць прадстаўнікі праваабарончых арганізацыяў В.Гайдукоў, В.Сівуха, С.Фамін.*

*... Крычаве. Мясцовага актывіста Беларускага Хельсінскага Камітэту М.Маторанку ветлівыя чыноўнікі гарвыканкаму папрасілі пачакаць у калідоры. Праз некаторы час тыя ж чыноўнікі былі шчыра зьдзіўленыя тым, што не пабачылі праваабаронцу на сумесным паседжаньні, паколькі яно "толькі што завяршылася, пакуль вы тут сядзелі".*

*... Слаўгарадзе. Папярэджаны пра час паседжаньня па фарміраваньні раённай выбарчай камісіі дэмакратычны актывіст Д.Нікіцюк зьявіўся ў выканкам за гадзіну да абвешчанага часу. Аднак усё роўна не разьлічыў, бо чыноўнікі сустрэлі яго паведамленьнем пра тое, што па прычыне расьпісанага па хвілінах цяжкага працоўнага дня вымушаныя былі пачаць паседжаньне са згоды ўсіх прысутных нашмат раней.*

*... Бялынычах. На сумесным паседжаньні райвыканкаму і прэзыдыюму райсавету па фармаваньні раённай выбарчай камісіі было названа 16 прозьвішчаў. А патрабавалася ў склад яе ўключыць 13 чалавек. Адзінагалосна за сьпісам засталіся Вайлакава, Карпечанка й Мяцеліца – якраз тыя, што прадстаўлялі апазыцыйныя ўладзе структуры.*

*... Асіповічах. Паседжаньне райвыканкаму і прэзыдыюму райсавета прайшло раней за пачатак працоўнага дня. Журналісты, якія а 9-й раніцы прыйшлі на паседжаньне, ужо ад кіраўнікоў выканаўчай улады атрымалі неабходную інфармацыю. Мясцовае чынавенства адмовілася ўключыць у склад камісіі прадстаўнікоў Таварыства беларускай мовы і Беларускага Хельсінскага Камітэту, а таксама двух жыхароў гораду, якія вылучаліся праз збор подпісаў. Афіцыйная падстава адмовы – спазьніліся з падачай папераў.*

*... Бабруйску. Тут у склад раённай камісіі па выбарах прэзыдэнта ня трапілі сябры АГП, БНФ, БХК, а таксама тыя жыхары гораду, што зьбіралі подпісы выбарцаў для свайго вылучэньня. Прычына адмовы – "запозна пададзеныя дакумэнты".*

***Па паведамленьнях нашых карэспандэнтаў***

## Жэст павагі і надзеі

Амбасада ЗША ў Беларусі распаўсюдзіла заяву намесьніка прэсавага сакратара Дзяржаўнага дэпартамэнту Філіпа Рыкера, у якой гаворыцца: "Злучаныя Штаты адзначаюць той факт, што Беларусь вызначыла 9-га верасьня 2001 году як канкрэтную дату прэзыдэнцкіх выбараў. Мы ўспрымаем гэтыя выбары як важную магчымасьць для Беларусі перапыніць працэс самаізаляцыі і пачаць вяртаньне да свайго незалежнага месца ў эўраатлянтычнай супольнасьці. Злучаныя Штаты пасьлядоўна падтрымліваюць дэмакратычныя працэсы ў Беларусі і гатовыя працаваць з прадстаўнікамі ўсіх палітычных групаў Беларусі, як на двухбаковай аснове, так і праз АБСЭ, з мэтай забесьпячэньня свабодных і справядлівых выбараў. Ключом да адкрытай выбарчай кампаніі зьяўляюцца крытэры, акрэсьленыя АБСЭ ў мінулым годзе, а таксама абавязацельствы Беларусі па Капэнгагенскім дакумэнце. Гэтыя крытэры ўключаюць у сябе ліквідаваньне клімату страху, роўны доступ да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі для ўсіх кандыдатаў, павагу да свабоды сходаў, а таксама празрыстасьць і справядлівасьць працэсу рэгістрацыі кандыдатаў і функцыянаваньне выбарчых камісіяў. Злучаныя Штаты цалкам падтрымліваюць Кансультатыўна-назіральную групу АБСЭ па Беларусі і Бюро АБСЭ па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека, якія закладваюць зараз аснову для выбараў, уключаючы падрыхтоўку мясцовых назіральнікаў і арганізацыю міжнароднага назіраньня.

Паміж ЗША і Беларусьсю існуе шмат прамблемаў у сфэры дэмакратыі і правоў чалавека, у тым ліку нерастлумачаныя зьнікненьні апазыцыйных палітычных дзеячоў на працягу апошніх двух гадоў. Свабодныя і справядлівыя прэзыдэнцкія выбары могуць стаць важным першым крокам на шляху вырашэньня гэтых вельмі сур'ёзных праблем".

**Улас. інф.**



**Год таму, 7 ліпеня 2000 г. зьнік наш калега, вядомы тэлеапэратар**

**Дзьмітры Завадзкі**

***Грамадзтва не забылася. Грамадзтва патрабуе адказу і пакараньня вінаватых!***

Хутка год, як ягоная сям'я пазбаўленая бацькі і мужа. Беларуская асацыяцыя журналістаў заклікае ўсіх неабыякавых людзей дапамагчы сям'і Дзьмітрыя Завадзкага і дасылаць ахвяраваньні на разьліковы рахунак Сьвятланы Міхайлаўны Завадзкай. Калі ласка, абавязкава пазначайце прызначэньне плацяжу:

**АХВЯРАВАНЬНЕ СЯМ'І, СЫНУ ДЗЬМІТРЫЯ ЗАВАДЗКАГА.**

Рэквізыты банка-атрымальніка:
Рахунак для ахвяраваньняў у валюце:
PRIORBANK
Minsk V.Horuzhey str.31-A
SWIFT Code: PJCB BY 2X
3134125305029
Атрымальнік: **Sviatlana Zavadskaya**
Рахунак для ахвяраваньняў у беларускіх рублях:
P/p 3134125300011,
"Пріорбанк" ОАО, код 749
Атрымальнік: **Сьвятлана Міхайлаўна Завадзкая.**



# Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Пад гучныя словы аб дапамозе і падтрымцы расейскія бізнэсоўцы, выглядае насамрэч, прывезьлі сваё спадзяваньне танна прыдбаць нашыя гіганты хімічнай вытворчасьці. Маскоўская дэлегацыя на чале зь віцэ-прэзыдэнтам Расейскага саюза хімікаў Віктарам Івановым наведала днямі магілёўскае аб'яднаньне "Хімвалакно" і бабруйскі "БШК". Гісторыю пра тое, як праз пэўныя механізмы гігант на Бярэзіне можа й перастаць быць беларускім, айчынны незалежны друк асьвятляў. Непакой выклікае зусім ня тое, што працоўныя гігантаў і гарады ўвогуле могуць нарэшце знайсьці сабе хоць бы якіх інвэстараў. Непакоіць закрытасьць эканамічных перамоваў пры парабольшваньні прапагандысцкага патасу наконт "вечнай дружбы". Як бы за бортам не засталіся якраз беларускія рабочыя, адміністратары ды інжынэры.

Афіцыйныя ўлады даволі часта спасылаюцца на так званы кітайскі эканаміка-палітычны досьвед. Маўляў, усходнія дасягненьні ёсьць добрым прыкладам для нас. Але нічым, акрамя папулізму, гэта ня выклікана, бо Беларусь такім чынам хваліць Кітай "за антыамэрыканізм і камуністычнасьць", а не за эканоміку. Яна там рынкавая, ад самой ідэі якой нашая ўлада бяжыць як той чорт ад бажніцы. Гасьцяваўшая днямі ў Магілёве кітайская амбасадарка У Сяо-Цю сумленна заявіла аб тым, што шчыльнаму эканамічнаму супрацоўніцтву паміж Беларусьсю і КНР перашкаджае дрэнны інвэстыцыйны клімат у нашай краіне. Таму пакуль кітайскага ў нас – толькі некалькі Дзён кітайскага кіно.

Першы намесьнік старшыні аблвыканкаму Мікалай Жук заклікаў мясцовых прамыслоўцаў рашуча рэфармаваць уласнасьць, сьмялей інвэставаць у новыя вытворчыя фонды, настойліва зьніжаць долю бартэру і пасьлядоўна ажыцьцяўляць жорсткую эканомію выдаткаў. Досыць адукаваны спэцыяліст Мікалай Жук выказаў гэтыя думкі, аналізуючы (ня першы год, на жаль) існуючы стан рэальнай абласной эканомікі. Ён такі, што няма грошай на адпускныя настаўнікам, няма – на заробкі сялянам, няма – на ўтрыманьне сацыяльнай сфэры. Ці выправіш тут сытуацыю выключна за кошт правільных і нават сьмелых пажаданьняў?.. Праграмы рэформаў у краіне, даўно насьпелых – вось чаго няма. Выбіраючы чалавека на прэзыдэнта, добра каб выбарцы зьвярнулі нарэшце ўвагу на той шлях, які ён будзе прапанаваць грамадзтву.

Міжволі пацьвердзіў на тыдні неабходнасьць рэфармаваньня эканомікі і яшчэ адзін нам.старшыні аблвыканкаму Аляксандар Дубко. Новы для вобласьці чалавек, ён куруе сельскую вёску і адпаведную вытворчасьць. На прэс-канфэрэнцыі падзяліўся такім прыкладам тыпова "беларускіх эканамічных складанасьцяў" – на складах прадпрыемства ляжыць некалькі тонаў патрэбнай спажыўцам прадукцыі, а рэалізаваць яе нельга. Чаму? Высокая цана, бо ў яе чаго толькі ня ўключана. Здавалася б, дык зьменшыце – і прадайце. Нельга так проста, тут ці не дазвол Савету Міністраў патрэбны! Нават ня важна, пра што канкрэтнае ішла гаворка (пра казэін, дарэчы), бо такая сытуацыя ва ўсім, за што ня возьмешся. Зь іншага боку, дазволь гэтым "дзяржаўным дырэктарам" самім распараджацца прадукцыяй – так і чакай якой крымінальшчыны...

У Магілёве адбылася ў поўным сэньсе добрая падзея: дабрачынны канцэрт "Скажы дзецям – так!", наладжаны намаганьнямі грамадзкіх арганізацыяў у дапамогу дзецям-інвалідам. У падрыхтоўцы мерапрыемства ўдзельнічалі каля дзясятка магілёўскіх грамадзкіх ініцыятываў, а каардынавала ўсю працу дабрачыннае аб'яднаньне "Прамень надзеі". Тэхнічную дапамогу аказала МГА "Кола сяброў". На сцэне Палаца культуры аб'яднаньня "Хімвалакно" выступілі вядомыя эстрадныя выканаўцы і калектывы мастацкай самадзейнасьці. Падчас самой падзеі актывісты-валанцёры зьбіралі ахвяраваньні. Грошы будуць скарыстаныя на дапамогу ў аздараўленьні дзяцей з асабліва цяжкімі формамі захворваньняў.

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

# Уважлівым позіркам

***Палітычны аглядальнік радыё "Свабода" Валер Карбалевіч аб выніках рэгістрацыі ініцыятыўных групаў кандыдатаў на пасаду прэзыдэнта:***

– Рэгістрацыя кандыдатаў сьведчыць аб зьяўленьні пэўных нечаканасьцяў і сюрпрызаў. Па-першае, падала заяўку на рэгістрацыю Натальля Машэрава. Тое, аб чым гаварылі так доўга, адбылося. Гэта значна ўскладняе карціну, увесь расклад перадвыбарчай барацьбы. Па-другое, зарэгістравалі ініцыятыўную групу Пазьняка, што вельмі нечакана і вельмі цікава. І трэцяя нечаканасьць – гэта зьяўленьне амбасадара Міхаіла Марыніча, а таксама дырэктара менскага аб'яднаньня "Атлант" Калугіна.

І вось мы бачым, што зараз на палітычнай арэне прадстаўлены ўвесь палітычны спэктар. Правы фланг прадстаўлены Пазьняком. Уступленьне яго ў барацьбу ссоўвае ў цэнтар групы Домаша, Казлоўскага, Ганчарыка, Чыгіра. А ўступленьне ў барацьбу Марыніча, Машэравай, Сініцына, Калугіна стварае нейкую роспач у стане намэнклятуры – можна нават казаць, што ёсьць прыкметы расколу намэнклятуры, бо атрымліваецца, што частка яе выходзіць з-пад кантролю. Само па сабе гэта можа стварыць умовы для перадоленьня той атмасфэры страху, якая зараз існуе ў грамадзтве. А на левым флангу будуць змагацца Калякін і Машэрава. Але ж – гэта электаральнае поле самога Лукашэнкі...

Відавочна, улада ўзяла на ўзбраеньне тактыку рэгістрацыі ўсіх кандыдатаў, усіх ініцыятыўных групаў. Навошта? Першая прычына – паглядзець на поўны, "афіцыйны" расклад сілаў, на карціну ў цэлым, а потым ужо прымаць нейкія рашэньні. Другая – улада зацікаўленая ў тым, каб кандыдатаў было як мага больш, бо гэта распыляе, раздрабляе ўвагу выбарцаў. Ясна, што калі ёсьць адзін добра вядомы кандыдат, а ўсе астатнія – маловядомыя, то перавагу атрымлівае гэты вядомы. Трэцяя прычына – чым больш кандыдатаў, тым лягчэй рабіць маніпуляцыі падчас іхняй рэгістрацыі. Сумнеўна, каб усе 23 кандыдаты сабралі па 100 тысяч подпісаў. Некаторыя ня будуць зарэгістраваныя на законнай падставе, а разам зь імі можна не зарэгістраваць і "небясьпечных", хоць іх каманды і зьбяруць подпісы. На агульным фоне незарэгістраваных кандыдатаў гэта будзе выглядаць ня так нахабна й ня выкліча такога выбуху пратэстаў, як бы гэта магло адбыцца ў іншай сытуацыі.

І, нарэшце, такая яшчэ заўвага. Усе кандыдаты так ці інакш павінныя будуць крытыкаваць Лукашэнку. А гэта значыць, што антылукашэнкаўскі фронт будзе пашырацца і ахопіць вялікую частку насельніцтва. Што гэта дасьць на выбарах, цяжка прадбачыць. Але ж і дарма прайсьці ня зможа...

**БЕЛАПАН для «ТМ»**

**Сябры ініцыятыўнай групы Зянона Пазьняка** маюць намер праз пракуратуру і суд дамагацца таго, каб Цэнтарвыбаркам выдаў ім пасьведчаньні й падпісныя лісты на беларускай мове.

Пра гэта паведаміў кіраўнік групы Сяргей Папкоў. Ён лічыць, што Цэнтральная камісія груба парушыла заканадаўства, у прыватнасьці артыкул 50 Канстытуцыі і артыкул 12 закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусі". У адказе на адпаведны запыт за подпісам спн.Ярмошынай, які атрымаў сп.Папкоў, гаворыцца, што ў адпаведнасьці з арт. 17 Канстытуцыі і згодна з арт. 12 закону аб мовах падобная дакумэнтацыя можа весьціся й на расейскай. Што ЦВК і зрабіла: надрукавала ўсё па-расейску. Такім чынам, што грубае парушэньне нацыянальных правоў для адных, то – нязначны эпізод для іншых.

З падобнай заявай пратэсту аб моўнай дыскрымінацыі выступіла таксама група Сямёна Домаша.

●

**38 адсоткаў жыхароў Менску лічаць,** што вырашальны ўплыў на вынік маючых адбыцца выбараў прэзыдэнта могуць аказаць выбаршчыкі.

Такія вынікі апытаньня, праведзенага 12-14 чэрвеня сацыялягічнай службай "Зеркало" пры кампаніі БЕЛАПАН. Усяго былі апытаныя 500 жыхароў сталіцы рознага веку. 8% менчукоў лічаць, што вырашыць усё Расея, а 4% – Захад. Што вынік выбараў залежыць асабіста ад Лукашэнкі, лічаць 3% апытаных.

●

**26 чэрвеня ў Дзяржаўным музычным тэатры ў Менску** пройдзе музычная акцыя-канцэрт намінантаў штогадовага апытаньня папулярнасьці міжнароднага часопіса "Jazz forum".

Таксама плянуецца дэманстрацыя відзазапісаў канцэртаў сусьветных зорак джазу, распаўсюд асобнікаў часопісу й кампакт-дыскаў. Арганізуюць акцыю Польскі Інстытут у Менску і Беларуская гільдзія тэатральных рэжысэраў.

Першы падобны канцэрт прайшоў у Менску ў мінулым верасьні з удзелам квартэту Зьбігнева Намыслоўскага. Зараз выступяць польская сьпявачка Лора Шафран і трыо Анджэя Ягадзінскага з джазавай апрацоўкаю твораў Шапэна.

**БЕЛАПАН для «ТМ»**

# Ці будзе ўлада сумленнай да канца

***Цэнтарвыбаркам зарэгістраваў ініцыятыўную групу па вылучэньні кандыдатам на прэзыдэнта старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі – БНФ Зянона Пазьняка. Гэтаму папярэднічала рашэньне Канстытуцыйнага суду, які не знайшоў перашкодаў для ягонай рэгістрацыі.***

***Карэспандэнт радыё "Свабода" патэлефанаваў у Варшаву, дзе цяпер знаходзіцца Зянон Пазьняк.***

**Карэспандэнт:** Спадар Зянон, Вы чакалі менавіта такога выніку, ці ў Вас былі сумненьні?

**Пазьняк:** З пункту гледжаньня заканадаўства я не сумняваўся, бо закон быў на маім баку. Але я сумняваўся, ці будзе прынятае рашэньне па законе. Так што пэўныя сумненьні былі, але сёньня яны разьвеяліся, і гэта, я лічу, робіць гонар тым, хто гэтае рашэньне прыняў.

**Карэспандэнт:** Якая мэта Вашага ўдзелу ў гэтай кампаніі?

**Пазьняк:** Сярод тых людзей, якія заявілі аб жаданьні выступіць на выбарах у якасьці кандыдатаў, няма ніводнага чалавека, які б выступаў на баку беларускага народу. Я цудоўна разумею, што я ў гэтай сытуацыі адзіны кандыдат, які будзе прадстаўляць альтэрнатыву маскоўскай і лукашэнкаўскай палітыцы. Ніякіх саюзаў з Расеяй! Беларусь – незалежная, суверэнная, дэмакратычная дзяржава! Нармальныя адносіны з Расеяй на падставе міжнародных стандартаў. Што датычыць шляху ў Эўропу, то гэта ня значыць, што мы адразу туды пабяжым. Нам трэба стаць на ногі і падняць высока галаву, і пайсьці з высока ўзьнятай галавой, а не на каленях. Таму мы павінныя сыходзіць з нашай нацыянальнай годнасьці і з нашых магчымасьцяў, з нашай уласнасьці, культуры і гісторыі. Вось такая мая пазыцыя. Я проста абавязаны выступаць абаронцам гэтага народу, да якога сам належу.

**Карэспандэнт:** Вы плянуеце вяртаньне ў Беларусь?

**Пазьняк:** Гэта пытаньне часу. Я павінен буду вярнуцца ў Беларусь. З боку ўладаў таксама павінныя быць прынятыя адпаведныя захады. У прыватнасьці, Лукашэнка павінен адклікаць сваё распараджэньне зь мяжы, дзе сказана, што мяне ў любой сытуацыі трэба схапіць, а пракуратура павінная даць мне адказ наконт матывацыяў заведзеньня супраць мяне крымінальных справаў. Гэтыя пісьмовыя звароты ўжо зробленыя – і ў памежную службу, і ў пракуратуру. Я чакаю адказу. Так што гэта пытаньне часу...

*Размаўляў*
*Сяргей НАВУМЧЫК*

## Лекарскі саюз: сьвята прэзэнтацыі







У Дзень мэдыцынскага работніка новаўтвораны магілёўскі "Лекарскі саюз" наладзіў з дапамогі МГА "Кола сяброў" сваю прэзэнтацыю. Імпрэза атрымалася, на думку ўсіх, каму пашчасьціла на ёй прысутнічаць, інтэлігентнай, дзелавой і вясёлай. Здымкі нашага фотакарэспандэнта Дзяніса НОВІКАВА толькі ў малой ступені могуць гэта пацьвердзіць, але ўдзельнікам сьвята, спадзяемся, нагадаюць той шыкоўны вечар і дазволяць яшчэ раз адчуць цёплыя хьвіліны сяброўскай еднасьці, што панавала падчас сьвяточнай прэзэнтацыі.

## Спачатку трэба выбраць

***Канфэрэнцыя Міжнароднай арганізацыі працы 14 чэрвеня ў Жэневе прыняла адмысловы параграф, наступствам якога можа быць пагаршэньне зьнешнеэканамічнага становішча Беларусі.***

Як паведаміў рэгіянальны прадстаўнік Міжнароднай арганізацыі працы Франк Хофэр, беларускаму пытаньню надалі вялікую ўвагу. Удзельнікі абмяркоўвалі праблему ігнараваньня ўладамі Беларусі міжнародных стандартаў у сфэры працы. Вынікам ажыўленых дыскусіяў сталася прыняцьцё таго самага адмысловага параграфу ў сувязі з тым, што Камітэт у справе свабоды асацыяцыяў прызнаў істотнымі парушэньні міжнародных канвэнцыяў з боку Беларусі. Адмысловы параграф азначае, што найвышэйшы орган Міжнароднай арганізацыі працы – Канфэрэнцыя – лічыць беларускую сытуацыю надзвычайнай і мяркуе, што яна патрабуе асаблівай увагі міжнароднай супольнасьці.

МАП ня можа ўводзіць эканамічных санкцыяў супраць парушальнікаў. Але яна ўплывае на стаўленьне да іх з боку іншых краінаў, з боку Эўрапейскага Зьвязу. Напрыклад, ЭўраЗьвяз прадастаўляе дадатковыя гандлёвыя льготы тым, хто выконвае міжнародныя працоўныя стандарты. "Беларусь цяпер не атрымае такіх прэфэрэнцыяў", – паведаміў Франк Хофэр.

Супраць такога рашэньня выступіла ўрадавая дэлегацыя Беларусі, што брала ўдзел у форуме, а таксама дэлегацыя Расеі. Аднак Канфэрэнцыя не прызнала паўнамоцтваў беларускіх прадстаўнікоў з той прычыны, што гэтая дэлегацыя была сфармаваная з парушэньнем Статуту Міжнароднай арганізацыі працы. Тым ня менш, кіраўніцы гэтай дэлегацыі А.Колас форум МАП прадаставіў трыбуну для тлумачэньняў. Яна запэўнівала, што ўрад зьбіраецца спыніць антыпрафсаюзныя дзеяньні... Гэтае абяцаньне пракамэнтаваў віцэ-прэзыдэнт Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Уладзімер Макарчук: "Яны гэта абяцаюць ужо 2 гады. Між тым, антыпрафсаюзныя парушэньні можна ўхіліць іншым шляхам. З абраньнем нармалёвага прэзыдэнта ўсе гэтыя пытаньні вырашыліся б адразу".

***Міхал СТЭЛЬМАК***

## Усё мае прозьвішча

Партыйныя лідэры, што ўваходзяць у Кансультацыйную раду апазыцыйных палітычных партыяў, абмеркавалі сытуацыю, зьвязаную з пачаткам выбарчай кампаніі. Па дыскусіі была прынятая адмысловая заява, у якой пералічаны ўсе выяўленыя на сёньня парушэньні выбарчага заканадаўства і названыя тыя, хто іх дапусьціў. Заява накіраваная ва ўсе адпаведныя міжнародныя арганізацыі.

На думку С.Шушкевіча, які старшыняваў на гэтым паседжаньні, "улада не чакала арганізаваных дзеяньняў апазыцыі і фактычна прачнулася ў той момант, калі апазыцыя падала вельмі дакладныя, добра зробленыя сьпісы ў неабходнай форме. З гэтай нечаканасьці ўлада занэрвавалася, пачала бегаць, хаваць сьпісы, не прымаць людзей. Мы чакаем яшчэ больш нахабных дзеяньняў. Але процістаяць гэтаму будзем і надалей арганізаванасьцю, дакладным выкананьнем закону і інфармаваньнем як сваёй, так і міжнароднай грамадзкасьці".

***Уладзімер ГЛОД***

## Землякі не падвядуць

Паводле расейска-беларуска-ўкраінскага культуровага праекту "Княгіня Вольга" у Шклоўскім раёне пачаліся працы па будаўніцтву аздараўленчага комплексу на Лысай гары.

Комплекс мусіць быць гатовы да 27 чэрвеня, калі ў Шклове адбудзецца так званы "фэст славянскага сяброўства". Праект мае "саюзны" характар і прысьвечаны 2000-годзьдзю хрысьціянства і прыняцьцю хрысьціянства ўсходнімі славянамі. Арганізатары задумалі, што "з варагаў у грэкі" будуць ісьці чаўны. З Расеі праз тэрыторыю Беларусі яны паплывуць далей на Украіну. Вось 27-га чаўны і павінны прыплыць у Шклоў, дзе ўжо пабудаваныя новыя прычалы. Застаецца толькі зьдзіўляцца: адкуль у Шклова грошы на шыкоўнае афармленьне чарговага прапагандысцкага мерапрыемства?..

А з другога боку – чаго толькі не адшкадуеш на алтар вечнага "славянскага братэрства", тым больш у год прэзыдэнцкіх выбараў. Вядома, што да ўдзелу ў фэсьце запрошаныя Лукашэнка і мэр Санкт-Пецярбурга Якаўлеў.

***Аляксандар ШЧАРБАК***

## Вось такая сустрэча

З нагоды падпісной кампаніі ў залі паседжаньняў Асіповіцкага райвыканкаму адбылася сустрэча прадстаўнікоў газэты "Советская Белоруссия" з жыхарамі гораду.

На пытаньні прысутных адказвалі Павал Мінчанка, карэспандэнт па нашай вобласьці, і Ірына Гурыновіч, загадчыца сетцы распаўсюджваньня газэты. На сустрэчы было пад 100 чалавек разам з неадлучнай ад гасьцей намесьніцай старшыні райвыканкама па сувязях з грамадзкасьцю і сацыяльных пытаньнях Г.Тур. Сустрэча прайшла цікава: кожны выступоўца спачатку дзякаваў газэце "СБ", а толькі потым пачынаў размову аб набалелым. Выступалі як вэтэраны, так і моладзь. Людзі казалі пра несвоечасовую выплату заробкаў, цяжкае жыцьцё вэтэранаў, пра тое, што ім не адказваюць на лісты ў тую ж "СБ" і няма адказаў на пісьмовыя звароты ў адміністрацыю Лукашэнкі. Прадстаўнікі "прэзыдэнцкай газэты" па вострых пытаньнях скарыстоўвалі няхітры адказ, накшталт: "прынялі пад увагу, разьбярэмся". Калі людзі разыходзіліся, можна было пачуць незадаволенасьць сустрэчай і ўвогуле сытуацыяй у краіне. Аднак прылюдна, апрэч хіба аднаго агрэсыўнага выступу, гучала зусім іншае: дзякуй за ўвагу, дарагая рэдакцыя...

***Рыгор ЛАТЫШЭВІЧ***

## Верагоднасьць 1:550

Мінулым месяцам група маладых магілёўскіх грамадзкіх актывістаў, якія прадстаўляюцца сябрамі "Маладога Фронту", правяла на транспартных прыпынках абласнога цэнтру апытаньне і збор подпісаў за адкрыцьцё аўтобуснага маршрута "Чыгуначны вакзал – ТЭЦ-2". Чатыры гадзінавых рэйды (бо ўсе хлопцы і дзяўчаты вучацца) прынесьлі ажно 550 подпісаў у падтрымку такога маршрута.

Усе падпісныя лісты актывісты накіравалі ў гарвыканкам для прыняцьця адпаведнага рашэньня, зразумела, з надзеяй на рашэньне станоўчае. І вось нарэшце днямі моладзь, а разам зь ёй і 550 магілёўцаў, атрымала ветлівы, разважлівы і падрабязны адказ за подпісам нам. старшыні выканкаму А.Кавалёва. Усім добры той адказ! Адно засмуціла актывістаў і, відаць, тых, хто спадзяваўся на станоўчае рашэньне: маршруту, "исходя из вышеизложенного", ня будзе! Вышэй жа старанна пералічаныя ўсе нумары наяўных у гэтым кірунку тралейбусаў і нават інтэрвалы іхняга руху. Адсюль зроблена выснова: уводзіць аўтобусны маршрут немэтазгодна... Не сказаць, каб гучала гэта пераканаўча. Затое традыцыйна: улада лепш за нейкіх там 550 чалавек ведае, што ім жа, гэтым падпісантам, трэба. І, зразумела, яшчэ лепш – тое, чаго ім ня трэба.

***Уласная інф.***





**БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА**

У праграме:
...навіны зь Беларусі і ўсяго сьвету, правы чалавека, апазыцыя, улада, родная мова, эканоміка, мэдыцына, культура, гісторыя, эміграцыя...

**Спэцыяльныя перадачы:**

...Праскі акцэнт, Вострая Брама, Чытальная Заля, Блізкая Эўропа, Неабжытая Спадчына, Сымбаль Веры, Беларускія раздарожжы, Адукацыя за мяжою, Новае пакаленьне выбірае, Беларускі інтэрнэт...

**ЧАС І ХВАЛІ**

18:00 – 19:30 7295, 9610, 11725 (41,31,25м)
22:00 – 23:30 9530, 9750, 11865 (31,25м)
06:00 – 07:00 6065, 7295, 9650 (49,41,31м)
На сярэдніх хвалях – 576, 612, 1188 кгц
ІНТЭРНЭТ: http://www.svaboda.org
Паштовы адрас: 220005, Менск-5, п/с 111
Vinohradska 1, 11000 Praha 1, CZ

**НАСТРОЙЦЕСЯ НА СВАБОДУ!**



**Рэдактар Генадзь СУДНІК**




Аналітычна-інфармацыйная газэта. Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*

*Штотыднёвік*





АДРАС РЭДАКЦЫІ:

212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.

E-mail: krug@user.unibel.by

Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net


Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 4. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 21.06.2001 г. а 17.10.